ТЭЛЕПРАГРАМА НА ТЫДЗЕНЬ


№69 (1882)
Субота, 17 красавіка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.


# Народная Воля

*Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +13...+15, уначы — +3...+5; у Брэсце ўдзень — +15...+17, уначы — +10...+12; у Гродне ўдзень — +17...+19, уначы — +7...+9; у Віцебску ўдзень — +10...+12, уначы — +1...+3; у Гомелі ўдзень — +12...+14, уначы — +2...+4; у Магілёве ўдзень — +11...+13, уначы — +2...+4.

Па ўсёй краіне на працягу сутак захаваецца сухое, сонечнае, без ападкаў надвор'е.

*www.meteo.by*



***У сувязі з выхаднымі і Радаўніцай наступны нумар «Народнай волі», як і іншых газет, выйдзе ў чацвер, 22 красавіка.***

***Да сустрэчы!***

ПУЛЬС

## Адкрыта крэдытная лінія

Крэдытны камітэт ААТ "Белаграпрамбанк" прыняў рашэнне адкрыць крэдытную лінію ў суме 32,2 млрд. рублёў на закупку тэхнікі для сельгасарганізацый, што займаюцца вырошчваннем цукровых буракоў.

Такое рашэнне было прынята ў рамках рэалізацыі ўказа прэзідэнта ад 12 лютага гэтага года № 69 "Аб накірунках выкарыстання ў 2004 годзе сродкаў рэспубліканскага фонду падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі, харчавання і аграрнай навукі".

Названым указам агульны аб'ём сродкаў фонду на 2004 год устаноўлены ў памеры 987 млрд. 539 млн. рублёў. З іх сродкі ад збору ў фонд складаюць 977 млрд. 539 млн. рублёў, яшчэ 10 млрд. рублёў — паступленні ад вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі за карыстанне тэхнікай, закупленай на ўмовах доўгатэрміновай арэнды.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Прэзентацыя кнігі Зянона Пазьняка

Кансерватыўна-Хрысціянская Партыя - БНФ паведамляе, што 21 красавіка ў 19.00 у Мінску адбудзецца прэзентацыя новай кнігі Зянона Пазьняка "Новае стагоддзе", у якую ўвайшлі філасофскія, культуралагічныя і палітычныя артыкулы апошніх гадоў. На прэзентацыі выступяць вядомыя дзеячы навукі і мастацтва. Адбудзецца канцэрт беларускай народнай музыкі.

Мерапрыемства адбудзецца па адрасе: вул. Матусевіча, 20; вялікая зала Дома культуры АТТ "Сукно".

## «Зменім свет разам!»

У санаторыі-прафілакторыі "Спадарожнік" у Ждановічах праходзіць V Міжнародны фестываль "Зменім свет разам!". Ён арганізаваны Маладзёжным сацыяльным цэнтрам "Майстэрня будучыні" пры падтрымцы Міжнароднай асацыяцыі гуманітарнага супрацоўніцтва.

Удзел у мерапрыемстве бяруць 15 маладзёжных каманд з усіх рэгіёнаў краіны. Кожная з іх павінна будзе раскрыць адну з актуальных праблем у розных сферах (палітыка, эканоміка, экалогія, адукацыя, культура, СМІ) і паказаць рэальныя шляхі іх вырашэння.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Беларусь у Лондане

З 17 па 21 красавіка ў Лондане (Вялікабрытанія) адбудзецца 13-е штогадовае пасяджэнне Савета кіраўнікоў Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР).

У яго праграму ўключана прэзентацыя Рэспублікі Беларусь.

**Андрэй СЕРАДА.**

## Курсы замежных валют

На 17 красавіка Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:

1 долар ЗША — 2.152 рублі
1 еўра — 2579,39
1 расійскі рубель — 75,19
1 аўстралійскі долар — 1.596,46
1 балгарскі леў — 1.325,16
1 дацкая крона — 346,51
1 СДР — 3.126,27
1 ісландская крона — 29,45
10 японскіх іен — 198,81
1 казахскі тэнге — 15,62
1 канадскі долар — 1602,44
1 кувейцкі дынар — 7299,86
1 кыргызскі сом — 49,66
1 латвійскі лат — 3962,44
1 літоўскі літ — 747,04
1 малдаўскі лей — 183,30
1 нарвежская крона — 311,50
1 польскі злоты — 538,13
1 сінгапурскі долар — 1280,61
10.000 турэцкіх лір — 15,80
1 украінская грыўна — 403,71
1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3863,38
1 чэшская крона — 79,77
1 шведская крона — 280,53
1 швейцарскі франк — 1660,88
1 эстонская крона — 164,85

**БелаПАН.**

БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

# Лямант у пустыні?

## Не. І гэта, думаецца, разумее Аляксандр Лукашэнка

З Жэневы прыляцела вестка: Камісія па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый прыняла чарговую рэзалюцыю па Беларусі.

Нехта скажа: лямант у пустыні. Маўляў, колькі ўжо было розных рэзалюцый, а нашыя высокія чыноўнікі і вокам не маргнулі.

Мне здаецца, на гэты раз давядзецца не толькі вокам маргнуць. Кальцо, як кажуць, сціскаецца, і хочаш — не хочаш, а трэба нешта рабіць.

Камісія па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацый асуджае парушэнні правоў асобы ў нашай краіне. У рэзалюцыі адкрыта сказана, што яна заклапочана *"з нагоды з'яўлення інфармацыі з дакладных крыніц, уключаючы заявы былых следчых і вышэйшых афіцыйных асоб праваахоўных органаў урада Беларусі, што ўказваюць на дачыненне вышэйшых афіцыйных асоб Беларусі да знікнення і/або адвольнага пакарання смерцю трох палітычных апанентаў існуючай улады і журналіста"*.

Камісія *"настойліва заклікае"* *ўрад Беларусі звольніць альбо часова адхіліць ад займаемай пасады прадстаўнікоў праваахоўных органаў і дзяржаўных чыноўнікаў, якія маюць дачыненне да выпадкаў знікнення і/або адвольнага пакарання смерцю, да правядзення належнага расследавання"*.

Вядома, што напярэдадні разгляду рэзалюцыі Камісіі ААН па Беларусі да еўрапейцаў звярнуліся родныя зніклых палітыкаў і журналіста, якія ў сваім лісце просяць ААН *"выкарыстаць усе магчымыя сродкі ціску на беларускія ўлады"* з тым, каб нарэшце грамадскасць даведалася праўду аб тым, што адбылося з іх блізкімі, хто вінаваты ў трагедыях.

Камісія па правах чалавека ААН заклікала беларускія ўлады гарантаваць незалежнасць судоў, вызваліць усіх вязняў, затрыманых па палітычных матывах.

Не менш важны пункт рэзалюцыі — рашэнне аб назначэнні спецыяльнага дакладчыка па Беларусі, які вывучыць становішча з правамі чалавека ў нашай краіне і прадставіць адпаведны даклад на 61-й сесіі Камісіі.

Пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН **Сяргей АЛЕЙНІК** у інтэрв'ю расійскаму агенцтву "Новости" назваў рэзалюцыю ААН палітызаванай і *"поўнай жадання аказаць палітычны ціск на кіраўніцтва Беларусі"*. Кіраўнік жа забароненага ўладамі праваабарончага цэнтра "Вясна" **Алесь БЯЛЯЦКІ,** які таксама прысутнічаў у Жэнэве і меў сустрэчы з прадстаўнікамі нацыянальных дэлегацый у Камісіі, так ацаніў у інтэрв'ю "Радыё Свабода" жэнеўскія падзеі: *"Гэта наступны крок, які паказвае ўсё большую занепакоенасць міжнароднай супольнасці сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі"*.

Так, міжнародная супольнасць занепакоена сітуацыяй у Беларусі. І гэта не лямант у пустыні. Калі А.Лукашэнка сапраўды хоча мець добрыя адносіны з цывілізаваным светам, то яму трэба безадкладна выконваць патрабаванні рэзалюцыі. Інтарэсы Беларусі вышэй за інтарэсы, скажам, Шэймана ці нейкага іншага высокага чыноўніка.

**Наталля ГАК.**

# Іх лёс хвалюе не толькі Беларусь, але і ўвесь свет



Юрый ЗАХАРАНКА

*знік 1803 дні таму*



Віктар ГАНЧАР

*знік 1671 дзень таму*



Анатоль КРАСОЎСКІ

*знік 1671 дзень таму*



Дзмітрый ЗАВАДСКІ

*знік 1379 дзён таму*

ЗАКУЛІССЕ

# Куды будзе лётаць новы «Боінг»?

*Камандзіраваныя ў ЗША спецыялісты нацыянальнай авіякампаніі "Белавія" пройдуць навучанне ў справе абслугоўвання эксклюзіўнай мадэлі самалёта "Boeing 737 Business Jet", пабудаванага на замову Адміністрацыі Аляксандра Лукашэнкі. Напрыканцы мінулага года дэлегацыя беларускіх чыноўнікаў ужо вылятала ў Сіэтл. Паводле Дзяржкамавія, новым паветраным суднам Аляксандар Лукашэнка зможа карыстацца ўжо сёлета ў жніўні.*

Гісторыю будаўніцтва спецыяльнага самалёта для Аляксандра Лукашэнкі ўладам удавалася захоўваць у таямніцы амаль тры гады. Менавіта столькі мінула часу з моманту замовы, калі на стапэлях у Сіэтле стаяў гатовы да ўнутранага аздаблення новы фюзеляж эксклюзіўнай мадэлі "Business Jet". Зрэшты, і цяпер у Адміністрацыі Лукашэнкі адмаўляюцца ад каментарыяў: ці не знаходзіцца ў аварыйным стане цяперашні самалёт Лукашэнкі, расійскі Ту-154, калі ўзнікла неабходнасць замаўляць больш надзейны амерыканскі "Боінг"?

Разам з тым, крыніцы ў Дзяржкамавія пацвердзілі: паступова гісторыя з прэзідэнцкім "Боінгам" набліжаецца да фінішнай рысы. Днямі з Германіі вярнуўся экіпаж, які трымаў іспыты ў адной з авіяшколаў і дзе на трэнажорах пілоты адпрацоўвалі пасадку ў нештатных сітуацыях. Праўда, калі верыць чуткам, лётчыкам яшчэ ёсць над чым працаваць, бо двойчы яны не справіліся з заданнем і пусцілі ўяўны самалёт у крутое піке.



Цяпер настала чарга павысіць прафесійны ўзровень механікам. Спецыяльныя курсы ў Сіэтле павінны стаць сур'ёзным выпрабаваннем, паколькі дагэтуль абслугоўваннем адзінага ў Беларусі пасажырскага "Боінгу 737-500" займаліся запрошаныя дзеля гэтага тэхнікі з Украіны. Самі ж украінцы не перастаюць здзіўляцца "вынаходлівасці" беларусаў. Нідзе яшчэ ў свеце не пазбаўляліся ад лёду, намерзлага на фюзеляжы "Боінгу", цягаднем дывановай дарожкі, перакінутай праз самалёт! А на мінскім аэрадроме гэта практыкавалася ўсю зіму.

Напрыканцы сакавіка ў Мінск прыязджала група амерыканскіх дызайнераў, якія ўдакладнялі густы будучага карыстальніка: якога колеру паслаць дываны, як аздобіць крэслы, якія лямпачкі ўкручваць і г.д. Аднак, нават без уліку персанальных густаў заказчыка, мадэль "Business Jet" ад пачатку адрозніваецца не толькі павышанымі тэхнічнымі характарыстыкамі, але і ўзроўнем камфортнасці. Усё сведчыць на тое, што самалёт адрасаваны нешэраговай асобе: поўная шумаізаляцыя, прыборы сачэння за паветранымі аб'ектамі, спецсувязь, складаная сістэма бяспекі, адмысловыя кандыцыянеры паветра. Усё гэта каштуе вялізных грошай. Але цана такіх машын ніколі не бывае аднолькавай: кошт залежыць ад запатрабаванняў кліента. Так, калі арабскія шэйхі аздабляюць салон золатам, то еўрапейскія кіраўнікі спыняюцца пераважна на чырвоным дрэве.

У беларускім выпадку фінансавыя выдаткі з чымсьці параўноўваць цяжка: набыты летась серыйны пасажырскі "Боінг 737-500" нават з улікам свайго 10-гадовага ўзросту каштаваў 23 мільёны долараў.

У новага лайнера беспрэцэдэнтная для грамадзянскіх самалётаў дальнасць палёту без дазапраўкі — 14 тысяч кіламетраў, што істотна перавышае здольнасці цяперашняга самалёта Лукашэнкі, расійскага Ту-154. Іншая рэч, ці спатрэбяцца беларускаму лідэру такія тэхнічныя перавагі? Адлегласць у паветры ад Мінска да Масквы, куды Лукашэнка пераважна лётаў (а цяпер ён і там не часты госць) — усяго 800 кіламетраў.

**Ігар КАРНЕЙ.**
*(Радыё "Свабода".)*

ЧУЛІ?

# Працэс

## Міжнародная арганізацыя працы пачала «заслухоўваць сведкаў» па справе рэпрэсій супраць беларускіх прафсаюзаў

Як ужо паведамлялася, у Беларусь прыляцела спецыяльная камісія Міжнароднай арганізацыі працы (МАП). Да наступнай суботы, 24 красавіка, прадстаўнікі кантрольнай камісіі з Жэневы будуць правяраць выкананне ўрадам Беларусі канвенцыі МАП "Аб свабодзе аб'яднання і абароне правоў на арганізацыю ў прафсаюзы". Рашэнне пра візіт жэнеўскіх эмісараў было прынята яшчэ летась, 19 лістапада, адміністрацыйнай радай МАП на падставе скаргі Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў.

*"Наша задача ў ходзе візіту ў Мінск,* — заявіў на сустрэчы з журналістамі старшыня камісіі МАП **Будзіслаў ВУКАС** з Харватыі, — *гэта ўстанаўленне поўнасцю незалежным і непрадузятым чынам фактаў, якія тычацца нібы меўшых месца парушэнняў правоў прафсаюзаў у Беларусі. У гэтым сэнсе камісія не абмяжоўваецца вывучэннем інфармацыі, прадстаўленай зацікаўленымі бакамі, але і абавязана прыняць належныя меры для атрымання па магчымасці самай поўнай і найбольш аб'ектыўнай інфармацыі па разглядаемых пытаннях"*.

Затым сп. Вукас паведаміў, што камісія мае намер сустрэцца з прадстаўнікамі прафсаюзаў, а гэта каля 70 чалавек, а таксама з першымі асобамі ўрада краіны. Адна з гэтых сустрэч адбылася ўжо ў першы дзень знаходжання камісіі МАП у Мінску — з міністрам працы і сацыяльнай абароны Беларусі Антанінай Моравай.

Самым першым сведкам "працэсу", які ладзіць зараз у Мінску Міжнародная арганізацыя працы, стаў лідэр Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў **Аляксандр ЯРАШУК.** У інтэрв'ю "Народнай волі" ён параўнаў пасяджэнні камісіі Міжнароднай арганізацыі працы з сапраўднымі судовымі пасяджэннямі: *"Менавіта судовы характар існуе на самай справе ў гэтай працэдуры. Гаворка ідзе аб міжнародным судзе над урадам Беларусі за сістэматычныя парушэнні ў нашай краіне правоў прафсаюзаў. Абвінавачвае беларускі ўрад у гэтым працэсе Міжнародная канфедэрацыя незалежных прафсаюзаў, а мы ўсе — сведкі. Хачу падкрэсліць, што разглядаюцца не толькі рэпрэсіі супраць арганізацый, але і супраць канкрэтных грамадзян — напрыклад, выпадак са звальненнем з працы Альберта Яўменава з Елізаўскага шклозавода, які проста адмовіўся прыйсці на суботнік"*.

*"Самы негатыўны вынік, які чакае Беларусь пасля гэтага міжнароднага даследавання,* — лічыць А. Ярашук, — *гэта далейшае пагаршэнне іміджу нашай краіны на міжнароднай арэне. Наша краіна рызыкуе трапіць у чорны спіс — побач з М'янмай, дзе, як вядома, пануе ваенная дыктатура. МАП дае сігнал урадам іншых краін, што з урадам Беларусі яны рэкамендуюць не мець сур'ёзных адказных зносін, дае сігнал наймальнікам, бізнесменам — у гэтую краіну не рэкамендуецца інвесціраваць капітал. Гаворка ідзе пра страту Беларуссю наогул сур'ёзных перспектыў для развіцця эканомікі"*.

Наконт магчымага ўвядзення санкцый супраць Беларусі кіраўнік камісіі МАП Будзіслаў Вукас адказаў так: *"Я думаю, што не варта выкарыстоўваць такі тэрмін, як санкцыі, а лепш будзе сказаць, што мы прапануем высветліць факты і затым прапанаваць рашэнне ў рознабаковыя структуры Міжнароднай арганізацыі працы. Яны будуць адсочваць паводзіны ўсіх зацікаўленых бакоў у гэтай справе, пасля публікацыі гэтага дакумента — кантраляваць, як вырашаюцца праблемы, якія высветліла камісія"*.

Паводле звароту Міжнароднай арганізацыі працы, створана адпаведная камісія і ў Еўрасаюзе, якая цяпер разглядае магчымасць увядзення эканамічных санкцый супраць Беларусі, а менавіта — адмены гандлёвых прэферэнцый з краінамі — сябрамі саюза. *"На канчатковае рашэнне Еўракамісіі самы непасрэдны ўплыў можа мець і вынік цяперашняга візіту ў Мінск місіі МАП"*, — лічыць А. Ярашук.

Пасля завяршэння працы ў Мінску слуханні па справе парушэння правоў беларускіх прафсаюзаў працягнуцца ў Жэнэве. Па іх выніку будзе складзены даклад і даведзены адміністрацыйнай радзе МАП і ўраду Беларусі ўжо гэтай восенню. Іншымі словамі, працэс міжнароднага супольніцтва над урадам Беларусі працягваецца. Кафка адпачывае...

**Алесь СІЛІЧ.**

# Расправа за убеждения?

Более ста работников Новополоцкой ТЭЦ поставили свои подписи под обращением к министру энергетики Беларуси Эдуарду Товпенцу и генеральному директору государственного энергетического концерна "Белэнерго" Сергею Белому. В этом документе работники станции выражают протест против попытки расправы с членами Свободного профсоюза Новополоцкой ТЭЦ, в отношении которых выданы уведомления о прекращении контрактов.

Напомним, что подобные уведомления, подписанные директором ТЭЦ Владимиром Калачевым, получили начальник смены турбинного цеха Вадим Духоменко, старший машинист котельного цеха Юрий Обухов и слесарь турбинного цеха Юрий Гайченко. Все они являются членами Совета первичной организации работников Новополоцкой ТЭЦ Свободного профсоюза Белорусского. Их срочные трудовые договоры заканчиваются в апреле и мае нынешнего года. Новополоцкие энергетики, поставившие свои подписи под обращением, считают, что все эти трое работников являются хорошими специалистами, добросовестно исполняющими свои трудовые обязанности и соблюдающими трудовую дисциплину.

"Мы расцениваем намерение не продлять контракт с Духоменко, Обуховым и Гайченко как очевидный факт давления на людей и преследования их за убеждения, свобода которых гарантирована Конституцией и законодательством страны, — отмечается в обращении.

Подобные обращения в поддержку троих активистов СПБ Новополоцкой ТЭЦ подписали также работники ряда других крупных предприятий региона, в частности ОАО "Полимир" и ОАО "Нафтан".

*praca-by.info*

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ

## Лепш бы маё імя выкраслілі...

Выйшла ў свет чарговая кніга ў вядомай серыі "Памяць" — "Лагойскі раён". У двух вялікіх тамах.

Хацеў бы, па зразумелых прычынах, падзяліцца з чытачамі радасцю, што гэты доўгачаканы грунтоўны двухтомнік выдадзены. На жаль, не магу, і — Бог сведка. Мне проста не да гэтага. Душу перапаўняе гаркота.

У кнізе, у раздзеле "Яны прайшлі дарогамі вайны", пералічаны імёны жыхароў Лагойшчыны, хто змагаўся супраць акупантаў на фронце або ў партызанах і дажыў да Перамогі. Каля трохсот чалавек з іх ліку ўшанаваны ў кнізе партрэтамі. Імёны пададзены спісамі па вёсках, з пазначэннем, хто чым узнагароджаны. Вось і мая Слабада Гайненскага сельсавета, вось і спісак, у якім больш за дваццаць імён франтавікоў, партызанаў, сувязных. З хваляваннем чытаю і — не веру сваім вачам: у спіску не значыцца партызан, палітрук 2-й роты атрада "Бальшавік" Гілевіч Сымон Пятровіч. Няма! Не было такога ў партызанах, аказваецца! З фашыстамі не змагаўся.

Помню, бо ўжо быў падлетак, яго начныя знікненні з дому ў 1941 і 1942. Куды знікаў — я даведаўся пазней: адзіны ў вёсцы камуніст, ён хадзіў на сходкі падпольшчыкаў. У канцы лета 1943-га пайшоў у партызанскі атрад "Бальшавік", дзе быў неўзабаве назначаны палітруком баявой роты. Пайшоў — ад васьмярых непаўналетніх дзяцей. Хачу гэту акалічнасць падкрэсліць: не малады хлапец-халасцяк, а саракагадовы бацька васьмярых дзяцей. Хацеў бы ведаць: ці шмат у партызанскай Беларусі было такіх прыкладаў, каб галава сям'і, маючы на руках восем непаўналетніх дзяцей, пайшоў у партызанскі атрад, і не напярэдадні вызвалення (як многія!), а яшчэ летам 1943-га? Ці, можа, гэта ўвогуле адзінкавы, унікальны ў Беларусі (і не толькі ў Беларусі) прыклад? Гісторыкі, даследчыкі 2-й сусветнай вайны гэтым аспектам грамадзянскіх паводзін патрыётаў не цікавіліся?

Праўда, у верасні таго ж года нас, дзяцей, ужо стала сямёра. Сям'я не магла заставацца ў Слабадзе, бо расправа была б немінучай, і мы падаліся ў бежанцы, нейкі час жылі ў шалашы ў лесе, там захварэў на дыфтэрыю наш самы меншы, двухгадовы любімец сям'і Алесік. Выратаваць было немагчыма, патрэбных лекаў не было — і праз некалькі дзён яго не стала. Гэта была наша сямейная ахвяра вайне.

Помню, калі жылі яшчэ ў тых бежанцах у Айнаравічах (бліжэй да лесу), бацька зрэдзь-часу прыходзіў дадому — з бельгійскім карабінам і з туга набітай газетамі і ўлёткамі кірзовай сумкай. Аднойчы прыйшоў вельмі журботны. На пытанне маці адказаў: "Хадзілі на разгром гарнізона, няўдачна, загінуў камандзір роты..." Помню, як тыдні за два да вызвалення, страшна схуднелы, скура ды косці, учарнелы, зарослы, ён вярнуўся са знакамітага Паліка, дзе палеглі сотні партызанаў, заціснутых у лясных балотах немцамі. Брыгадзе "Бальшавік" удалося нейкім чынам варожую блакаду прарваць і з акружэння выйсці.

Ратныя заслугі партызана С.П.Гілевіча былі адзначаны дзяржаўнымі ўзнагародамі — медалямі "Партызану Айчыннай вайны" І-й ступені і "За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.".

І вось — у кнізе "Памяць. Лагойскі раён", у спіску тых, што прайшлі дарогамі вайны, яго імя няма. Праз 60 гадоў пасля Перамогі і праз 30 гадоў пасля яго смерці Сымон Пятровіч Гілевіч пазбаўлены права на памяць людзей, землякоў, суайчыннікаў. Хай ніхто мне не кажа, што гэта сталася выпадкова, па недагляду. Ён быў занадта вядомы і відны ў родных мясцінах чалавек, каб менавіта на яго забыліся, складаючы спісак. Пасля вайны ён доўгі час працаваў у Слабадзе старшынёй сельсавета, затым старшынёй калгаса, пра яго пісалі ў газетах... Тыя, кім гэта гадства ўчынена, мелі на мэце зрабіць балюча яго дзецям, родным і блізкім. Дык могуць радавацца: мэты яны дасягнулі. Ударылі непамалу. Могуць радавацца. Ведаю, што ў людзей бывае радасць і такога кшталту.

Што яшчэ я магу сказаць? Лепш бы маё імя выкраслілі ў гэтай кнізе — мне не было б так крыўдна і горка, як крыўдна і горка за зняваґу яго памяці.

**Ад імя дзяцей, унукаў і праўнукаў беларускага партызана Гілевіча Сымона Пятровіча —**

**Ніл ГІЛЕВІЧ.**

Народная Воля

17 КРАСАВІКА 2004 г.

КОМАНДИРОВКА

# Колхозный диссидент

В село Долгое Солигорского района Минской области, центральную усадьбу бывшего колхоза "40 лет БССР", а ныне СПК "Белслучь", общественный транспорт не ходит. Вообще никакой. Раньше приезжал междугородный автобус "Минск — Долгое", да местные "ЛАЗы" из Солигорска время от времени жаловали. Потом охоту появляться в этой полесской "дыре" у государственных автоперевозчиков начисто отбили частники, владельцы маршрутных такси — после того, как несколько раз подежурили у рейсового автобуса, переманивая клиентов более низкой ценой.

Теперь сельскую автостанцию с проржавевшим, десятилетней давности расписанием, которое давно не действует, посещают разве что местные кошки, которые, как известно, гуляют сами по себе, и молодые люди со странным цветом лица, праздно шатающиеся по поселку... Иногда, правда, владельцы маршрутных такси возьмут да и заедут в Долгое, чтобы доставить пассажира за пару тысяч рублей из Солигорска. Но никто из местных жителей не знает расписания их работы.

Говорят, что полесская деревушка выпала из поля зрения транспортников по причине отсутствия спроса на переезды: вся активная молодежь из-за низких заработков в провинции уже съехала в города или на заработки в Москву и Санкт-Петербург, а оставшаяся часть жителей, в большинстве своем возрастная, перемещается исключительно на собственный огород и обратно. Местным людом не исключается и версия из исторического прошлого села Долгое — именно в этих местах последователи русского героя Ивана Сусанина братья Цубы в годы Великой Отечественной войны завели гитлеровцев в болото, чем обрекли их на верную смерть.

Теперь на верную смерть жителей села обрекает уже власть законная, как говорится, "всенародно избранная". Работу в селе найти очень трудно, зарплаты копеечные, цены в местном продмаге минские, а значит, высокие. Вот и слоняется народ без работы, время от времени "отдыхая" на собственном огороде или распивая с друзьями бутылочку дешевого "Крыжачка". Водитель хозяйства Александр Чирский получил зарплату за декабрь прошлого года в размере 21.300 рублей, не выдержал хронического безденежья и после Нового года... повесился, оставив на этом свете жену и ребенка.

## Возмущаешься властью? Сиди тогда дома на воде и хлебе!

Власть в Долгом слабая, а значит, всесильная. Не могут заплатить колхозникам достойную зарплату, а значит, преследуют за смелое, отличающееся от "генеральной линии партии" слово. В первый раз 50-летнего жителя с. Долгое **Григория КУЛИКА** уволили с работы еще в далеком 1988 году, когда он будучи в должности старшего инженера сельской ПМК (передвижной механизированной колонны. — **А.С.**), написал на имя Горбачева письмо, в котором возмутился местными порядками. Восемь лет Григорий Григорьевич "безработничал", потом стал депутатом местного Совета от БНФ (в то время он возглавлял местную ячейку Белорусского народного фронта), вновь устроился на работу инженером по трудоемким процессам. Обслуживал сложное оборудование, стал получать зарплату. Потом, когда возрожденческие настроения на селе поугасли, а БНФ раскололся на две части — сторонников Зенона Позняка и Винцука Вечерко — позиции Фронта на селе, по словам Г. Кулика, сошли на нет, и многие сельчане от организации отвернулись.

Но не отвернулись они от самого Григория Григорьевича, который продолжал и продолжает отстаивать интересы своих земляков до сих пор. *"Сейчас местное руководство придумало семь способов обворовывать колхозника,* — уверен Г.Кулик. — *Один из них такой: раньше средняя зарплата в колхозе была привязана к минималке, а сейчас ее почему-то решили привязать к тарифу первого разряда, который не увеличивается уже давным-давно".*

*"Кроме того,* — считает Григорий Григорьевич, — *экс-председатель колхоза, а ныне председатель СПК "Белслучь" Анатолий Голодок нарушает Конституцию и Закон, по три-четыре месяца не выплачивая работникам колхоза зарплату, часть которой неизменно "съедает" инфляция".*

Критикует Григорий Кулик и постановление Совета министров Республики Беларусь от 30 октября 2002 года №1506 "О формировании фонда оплаты труда в сельскохозяйственных организациях, имеющих задолженность по выплате заработной платы", согласно которому еще правительство Геннадия Новицкого установило, что фонд оплаты труда в коллективных хозяйствах не должен превышать 20% от объема реализованной продукции". *"Это бандитизм, настоящий бандитизм",* — восклицает Григорий Григорьевич. — *Они там наверху и не подумали разобраться, почему колхозники месяцами не получают зарплату: деньги, полученные от реализации продукции, проворачиваются в принадлежащих начальству коммерческих структурах. А теперь, после принятия постановления Совмина, получается так: человек заработал 28 тысяч, а получить к оплате может только 7500. Местная власть в ответ разводит руками: "Не виноватая я!"*

"Колхозный диссидент", как он сам себя называет, Григорий Кулик писал и жаловался куда только можно — в прокуратуру, в Администрацию президента, самому Лукашенко. Но все его письма возращались неизменно тем, на кого он жаловался — в Солигорский райисполком и руководителю хозяйства В.Голодку.

Начальство, естественно, не смогло себя заставить долго терпеть эпистолярные наклонности своего подчиненного. 4 июля прошлого года Григория Кулика уволили, даже не соизволив найти замену на такой нужной в колхозе должности. Вакансия колхозного "Кулибина" свободна, кстати, до сих пор. Недавно Григорий Кулик написал письмо на имя Генерального прокурора Виктора Шеймана. Письмо до республиканской прокуратуры дошло с опозданием почти на месяц, зато уже на следующий день после отсылки письма председатель колхоза Валерий Голодок упрекал за него "колхозного диссидента".

Сейчас Григорий Кулик "сидит на шее" жены — инвалида второй группы, оба живут на ее пенсию, при этом еще помогая сыну, который учится в Минске. Лишив работы, Кулика недавно еще и исключили из членов колхоза. *"Это несправедливо!* — считает Григорий Григорьевич. — *У меня высшее техническое образование, есть опыт, а меня лишают еще и права акционера".*

Григорий Кулик.

Последнее хобби "колхозного диссидента" — борьба с местной коммунальной службой. Григорий Кулик, имея за душой высшее техническое образование, вычислил, что в сельской отопительной системе существует несанкционированная труба, которая греет дома начальства, значительно ослабляя отопление домов простого люда. Весь февраль Григорий измерял температуру в своей квартире: ее средний показатель был равен 12,7 градуса. Когда же приехала вызванная Куликом из района комиссия, температура в народных домах резко подскочила...

## «Не ходите, люди, на выборы!»

Первое ощущение, которое испытываешь на улицах села, — это страх. Люди неохотно заговаривают с корреспондентом, боятся назвать свое имя, слезно умоляют не фотографировать их. Одна из пожилых жительниц, жена недавно умершего ветерана войны, считает, что в колхозе царит полное безвластие. *"Власти нет не только в нашей деревне,* — считает не назвавшая себя пенсионерка, — *власти нет в стране. Раньше я надеялась на Лукашенко, а теперь говорю всем своим детям и внукам (и правнукам скажу): нет у нас власти, и выборов нет! Прошу, молю своих детей: не ходите голосовать, любыми выборами в нашей стране власти только издеваются над людьми!"*

Кстати, муж пенсионерки, в диссонанс своему славному боевому прошлому, покинул этот свет абсолютно бесславно: упал на улице и, не дождавшись помощи, тихо умер. "Скорую" не вызвал никто.

## «Лукашенко не верю!»

Заслуженная колхозница Софья Колченок, у которой 13 детей и 7 внуков, тоже не верит колхозному руководству. *"Как-то Валерий Голодок* (председатель. — **А.С.**), — рассказывает Софья Поликарповна, — *пригласил меня и моих детей прополоть гектар свеклы, обещал за это 2.5 тонны сена. Так ничего и не дал. Так не обманывал ни один председатель! Больше не пойду, лучше буду голодать!"*

— **Поддерживаете ли Лукашенко?** — спрашиваю.

— А чем он нам поможет? — переспрашивает колхозница. — Говорит одно, а делается совершенно другое. Я раньше за его горой стояла, а потом увидела как, несмотря на его заверения, цены скачут, и Лукашенко перестала верить.

Свое недовольство колхозным начальством высказывали мне многие сельчане, с которыми удалось переговорить. Но избавиться от господина с символической фамилией Голодок жителям Долгого, судя по всему, удастся нескоро. В прошлом году, по рассказам жителей, отчетно-перевыборное собрание кооператива, на котором жители должны были выбрать нового председателя, посетила чиновница из Солигорского райисполкома Нина Засимович. Нина Васильевна, по рассказам, не отличалась дипломатичностью: *"Голосуйте за кого хотите, а контракт на руководство хозяйством мы уже заключили с Валерием Голодком. Он председателем и останется!"*

Вот такая колхозная демократия!

## «Муж, механизатор, сидит на моей шее»

Председателя СПК "Белслучь", с которым хотелось поговорить о многом, на месте, к сожалению, не оказалось. Зато оказалась словоохотливой главный экономист СПК "Белслучь" Елена Теменевич: *"Полевод у нас получает 35 тысяч рублей, животновод, обслуживающий крупный рогатый скот, — 78 тысяч, слесарь ремонтной мастерской — 40 тысяч, самая высокая в хозяйстве зарплата у доярок — 102 тысячи".*

— **Можно ли выжить на такие деньги?** — спрашиваю.

— Нет, конечно! — эмоционально отвечает Елена. — За газ и за свет надо заплатить минимум 30 тысяч, и то не хватит. Садик — 15 тысяч. Выживаем только за счет личных хозяйств. Молодежь почти вся сбежала, среди трактористов только четверо молодых, четыре доярки из двадцати пяти — молодые, ну еще девчата в бухгалтерии... В полеводческой бригаде молодых нет. Многие стоят на бирже труда, не хотят работать. А кто за такие копейки в колхозе будет работать? За счет родителей живут.

— **А свадьбы в Долгом часто играют?**

— Последняя свадьба была в июне прошлого года. Раньше свадьбы случались чаще, да и детей больше было.

Муж Елены — тракторист, в последнюю зарплату принес 40 тысяч рублей.

— **А Вы ведь получили больше ста тысяч. Получается, что Вы содержите своего мужа?**

— Нет *(смеется)*. Это две коровы нас содержат, за счет их и живем.

Кстати, по данным главного экономиста "Белслучи", за минувший месяц хозяйство сдало государству всего 90 тонн молока, из полученных 30 миллионов рублей почти все деньги пойдут на топливо, налоги и электроэнергию. Кое-что останется на зарплату. *"За литр солярки,* — возмущается Елена, — *нам придется заплатить 1000 руб, а за литр молока нам дадут только 330. Получается, литр солярки стоит три литра молока. Разве это справедливо? За последние два года закупочная цена на молоко поднялась с 236 до 330 руб., солярку же — с 350 до 1000".*

Кстати, закупки молока в государстве Беларусь, как уверила меня Елена Теменевич, только централизованные, частному производителю СПК "Белслучь" молоко продать не может. Солярку со скидкой тоже никто не предлагает. Даже частники.

В селе Долгое слово "частник" в последнее время вообще не в чести. Еще несколько лет назад работникам СПК бесплатно давали землю. Потом неожиданно они начали отказываться от нее. Почему? А просто раньше на этой земле они выращивали картошку на продажу. Приезжали покупатели-кавказцы, которые везли картошку потом на продажу в Россию. Всех все устраивало: и жителей Долгого, и кавказцев, и россиян. Но потом местное начальство решило, что обделенным оказывается белорусский потребитель. Кавказцев стали выгонять, добившись, в конце концов, их полного отъезда. Теперь все довольны, все смеются — россияне остались без нашей картошки, местный люд без дополнительного заработка, а земля — без заботливой руки...

...Единственная надежда выжить у жителей села Долгое — вырастить собственный урожай. В тот день, когда я уезжал в Минск, в Долгом была гроза. *"Гроза в конце марта — плохая примета,* — утверждают местные жители, — *урожая не будет".* Как переживут очередной год селяне?

**Александр СИЛИЧ.**
**Фото автора.**

*Солигорский район.*

*Памятник неизвестному колхознику в д.Долгое, на заднем плане — зияющая пустыми окнами недостройка.*

ПУЛЬС

## Адкрыты пасля рэканструкцыі «Варшаўскі мост»

Заўчора ў Брэсце адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця пасля рэканструкцыі міжнароднага аўтадарожнага пропуску "Варшаўскі мост".

Пасля рэканструкцыі ён стаў адным з самых сучасных пагранічна-мытных комплексаў, які мае ўсё неабходнае арганізацыйна-тэхнічнае аснашчэнне. Палепшылася інфраструктура пункту пропуску, прыгранічны сервіс, палепшаны ўмовы ў зале дагляду для асоб, якія перамяшчаюцца праз мяжу. Створаны ўсе ўмовы для працы мытных, пагранічных і іншых кантрольных служб.

Прапускная здольнасць "Варшаўскага моста" значна павялічылася і цяпер складае 2.700 транспартных сродкаў у суткі: 2.200 легкавых аўтамабіляў, 350 аўтобусаў і 150 матацыклаў. Транспарт будзе праходзіць праз 20 каналаў, 4 з якіх працуюць на дагляд і афармленне пасажыраў аўтобусаў, 16 — на легкавы транспарт.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Гінуць людзі на рабоце

У перыяд з 8 па 14 красавіка ў Беларусі ў выніку няшчасных выпадкаў на вытворчасці пацярпелі 29 чалавек. Шасцёра з іх загінулі, 23 атрымалі цяжкія траўмы.

Як паведаміў дырэктар дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Анатоль Садоўнічы, 40 працэнтаў выпадкаў са смяротным зыходам і 20 працэнтаў з цяжкім адбыліся па віне саміх работнікаў, якія знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення. Сярод асноўных прычын траўматызму і гібелі работнікаў на вытворчасці дырэктар дэпартамента таксама адзначыў нездавальняючы стан асноўных вытворчых фондаў і невыкананне наймальнікам патрабаванняў бяспекі працы пры эксплуатацыі абсталявання.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## За 2 тысячы долараў

На 7 гадоў пазбаўлення волі Брэсцкім міжгарнізонным судом асуджаны былы старшы лейтэнант пагранічных войскаў.

Як паведамілі ў прэс-цэнтры рэспубліканскай пракуратуры, суд прызнаў, што старшы лейтэнант, які ў верасні 2003 года з'яўляўся супрацоўнікам аддзела актыўных мерапрыемстваў, разам з трыма ваеннаслужачымі займаўся хабарніцтвам. У прыватнасці, ён патрабаваў хабар у памеры 2 тысяч долараў ЗША ў двух жыхароў Брэста, якія незаконна правезлі праз дзяржаўную мяжу гародніну і садавіну.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Бізнес-форум у Кітаі

У будынку Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў адбыўся бізнес-форум па пытаннях гандлёва-эканамічнага і інвестыцыйнага супрацоўніцтва паміж Рэспублікай Беларусь і Кітайскай Народнай Рэспублікай.

У ім узялі ўдзел прадстаўнікі беларускіх прадпрыемстваў у Кітаі, у тым ліку РУП "БМЗ", УП "МЗКТ", ВА "Беларуськалій", ВА "БелАЗ", авіякампаніі "Трансавіяэкспарт" і прадпрыемства "Полімайстар".

**Андрэй СЕРАДА.**

## У Браціславе пройдзе міні-фестываль беларускага кіно

Адбудзецца ён 19—21 красавіка. У яго рамках плануецца паказаць фільмы Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" "Анастасія Слуцкая", "Бальная сукенка", а таксама карціну сумеснай беларуска-расійскай вытворчасці "У жніўні сорак чацвёртага...".

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Бабруйскія шыны

ААТ "Белшына" ў першым квартале 2004 года павялічыла выпуск аўтамабільных шын на 37,1 працэнта ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года.

Найбольшы рост дасягнуты ў вытворчасці шын для грузавых аўтамабіляў: у студзені-сакавіку 2004 года іх было выпушчана 139 тыс. штук, што ў 2 разы перавышае ўзровень аналагічнага перыяду мінулага года.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Дзве партыі — два шляхі

*15 красавіка старшыня Рэспубліканскай дэмакратычнай партыі Яўген Еўчык, якога абралі на гэтую пасаду на ўстаноўчым з'ездзе, звярнуўся ў Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь са скаргай на Міністэрства юстыцыі, якое адмовіла ў рэгістрацыі партыі.*

На думку Яўгена Еўчыка, тыя заўвагі, якія зрабіла міністэрства, лёгка можна было выправіць, як кажуць, у рабочым парадку. Напрыклад, скарочаную назву прадпрыемства, на якім працуе ўдзельнік з'езда, можна было б лёгка замяніць на поўную, а недастаючы подпіс — унесці пазней. Аднак, як бы там ні было, міністэрства палічыла, што дакументы афармлены недакладна, і таму адказала ў рэгістрацыі. Пры гэтым яно патлумачыла, што адмова можа быць абскарджаная ў Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь.

Амаль адначасова было адмоўлена ў рэгістрацыі яшчэ адной партыі — Палітычнай партыі свабоды і прагрэсу, старшынёй якой на ўстаноўчым з'ездзе абраны дэпутат Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Навасяд. І гэтай партыі міністэрства паведаміла, што рашэнне можна абскардзіць у Вярхоўным судзе. Аднак, як сказаў мне Уладзімір Навасяд, яго партыя вырашыла пайсці іншым шляхам — палітсавет партыі вырашыў стварыць новы оргкамітэт і прайсці ўвесь шлях рэгістрацыі яшчэ раз. І хаця для гэтага неабходна ўнесці ў статут тыя змены, якія прапаноўвае Міністэрства юстыцыі, і арганізаваць больш за сто рэгіянальных устаноўчых канферэнцый, зноў правесці ўстаноўчы сход, партыя абрала менавіта гэты, здаецца, больш складаны шлях. Уладзімір Навасяд патлумачыў гэтае рашэнне так: *"Калі б мы вырашылі звяртацца ў Вярхоўны суд, то ўся працэдура магла б заняць каля шасці месяцаў. Правесці ж паўторна ўсе нашы мерапрыемствы мы спадзяемся на працягу аднаго месяца".*

**Уладзімір ГЛОД.**

## «Анастасія Слуцкая» ў ЗША

Фільм "Анастасія Слуцкая" Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" заяўлены ў конкурснай праграме 37-га Сусветнага кінафестывалю ў Х'юстане (ЗША), што пройдзе з 16 па 25 красавіка.

Як паведаміла БелаПАН вядучы спецыяліст упраўлення кінавідэамастацтва Міністэрства культуры Беларусі Дзіяна Папова, прэм'ерныя паказы карціны "Анастасія Слуцкая" адбудуцца 18—19 красавіка. Фільм суправаджае рэжысёр Юрый Ялхоў, які адправіўся ў ЗША пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі.

Усяго ў конкурсе фестывалю заяўлена каля 60 карцін з розных краін. У нядаўнім інтэрв'ю БелаПАН Юрый Ялхоў зазначыў, што еўрапейскія карціны на кінафестываль у Х'юстане трапляюць зрэдку.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

ЧП

## Узброіўся студэнт, але не ведамі

У бліжэйшы час мусіць паўстаць перад судом па крымінальнай справе 17-гадовы студэнт аграрнага каледжа, што пад Віцебскам.

А пачалося ўсё на чыгунцы. Пасажыры цягніка "Друя — Віцебск" паскардзіліся правадніцы, што маладыя людзі ў суседнім купэ паводзяць сябе непрыстойна: п'юць гарэлку, гучна брыдкасловяць, а на заўвагі старэйшых адказваюць лаянкай і пагрозай.

Раз'юшаныя хлопцы супакоіліся толькі пасля сустрэчы з супрацоўнікамі транспартнай міліцыі, якіх выклікала правадніца. А пасля таго, як міліцыянеры пакінулі вагон, жанчына знайшла ў купэ, дзе ехалі п'яныя падлеткі, пісталет і паведаміла аб гэтым пасля прыбыцця на станцыю.

Літаральна праз некалькі гадзін начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх Віцебскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце Алег Клопаў ужо ведаў, хто з'яўляецца гаспадаром самаробнага пісталета, прыстасаванага пад дробнакаліберныя патроны.

У пакоі інтэрната, дзе жыве юнак, які вёз у цягніку пісталет, аператыўнікі знайшлі яшчэ два пісталеты: адзін пнеўматычны, а другі такі ж, як той, што быў пакінуты ў вагоне.

Страшна падумаць, што магло б адбыцца, калі б аматар зброі прымяніў яе у час паездкі на цягніку.

Праўда, цяпер адказваць на гэтае рытарычнае пытанне прыйдзецца самому студэнту-зброяносцу. Тым больш, што следчы не паверыў ягонаму сцвярджэнню аб "выпадкова знойдзеных у лесе" пісталетах.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ПРАТЭСТ

## Удар па Скарынінскім цэнтры — гэта ўдар па беларускай нацыянальнай культуры!

Нядаўна рашэннем улад ліквідаваны Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны. Той самы Цэнтр, што існаваў дзеля працягу справы створанага ў дваццатыя гады мінулага веку Інбелкульта (так тады называўся Інстытут Беларускай культуры). Інстытут, з якога, як са своеасаблівага сімвала, пачалася тагачасная хваля беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння і які паклаў сабою пачатак Беларускай Акадэміі навук і Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Сімвалічнай была не толькі назва сучаснага Скарынінскага цэнтра — з імем вялікага беларускага асветніка Францішка Скарыны. Было дарага і тое, што месціўся ён на той жа вуліцы і ў тым жа самым будынку і пакоях, як і колішні, ужо легендарны Інбелкульт. Былі старанна адноўленыя нават унутранае абсталяванне і мэбля ў зале, дзе засядалі некалі знакамітыя беларускія вучоныя-адраджэнцы. Тыя самыя, што былі пастраляны Саветамі ў канцы жахлівых дваццатых гадоў (менавіта тады, раней на дзесяць год, на Беларусі "пачаўся" крывавы 37-ы), цені якіх, здавалася, і зараз маўкліва прысутнічалі на кожным пасяджэнні вучонай рады.

І вось гэты Цэнтр нібыта "з мэтай рэканструкцыі" далучаецца да Беларускага педагагічнага універсітэта. Падобна, гэта ўсяго толькі няўклюдная маскіроўка, пад якою хаваецца намер поўнай ліквідацыі нацыянальнай навукова-асветнай установы як юрыдычнай асобы. Ліквідацыя не толькі па форме, але і па вельмі істотным яго змесце і значэнні.

Але, калі падумаць, нічога тут дзіўнага няма: з савецкіх часоў улада, баючыся беларускага нацыянальнага адраджэння і беларускай дзяржаўнай незалежнасці, ніколі не спынялася перад ліквідацыяй беларушчыны ў любой форме. І таму гэта, на жаль, не нейкі там выключны, няўзважаны, адзінкавы выпадак, а чарговая ступень паслядоўнай лініі на знішчэнне беларускай нацыянальнай культуры і свядомасці народа.

Адным з першых крокаў сучаснай улады было масавае закрыццё беларускамоўных сярэдніх школ у гарадах і амаль што поўнае выгнанне беларускай мовы з нашых вышэйшых навучальных установаў, не кажучы ўжо аб пастаянных, публічна выказаных зняважлівых адносінах да яе з боку высокага дзяржаўнага кіраўніцтва. Затым — закрыццё адзінага беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. Цяпер — ліквідацыя Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны, што само па сабе ўжо набывае не толькі шкодны, а і відавочна дэманстратыўны характар: маўляў, мы сёння ля дзяржаўнага руля — і робім, што хочам. А ці ёсць на гэта такое права?

Такое робіцца цалкам свядома, з адзінай выразнай мэтай — далучыць да Расійскай Федэрацыі нашу незалежную пакуль што Рэспубліку Беларусь. Да той самай Расіі, народ якой даведзены зараз да жабрацкага стану. Сённяшняе кіраўніцтва ўсходняй суседкі ўяўляе сабе такое далучэнне толькі як "аншлюс" — паглынанне Беларусі Расійскай імперыяй, далучэнне ў якасці правінцыяльнай губерніі кшталту колішняга Паўночна-Заходняга краю. Ні аб якой беларускай культуры, а тым болей аб беларускім дзяржаўным суверэнітэце ніякай размовы тут няма і ў прынцыпе не мяркуецца. Яе і быць не можа.

Нацыянальная культура і дзяржаўны суверэнітэт, як вядома, звязаны паміж сабой непарыўнай сувяззю і існаваць адно без другога ў прынцыпе не могуць. Скарынінскі цэнтр, яшчэ задоўга да вядомай урадавай ініцыятывы аб стварэнні дзяржаўнай ідэалогіі, пачаў распрацоўку праблемы беларускіх грамадскіх ідэалаў, без якіх, вядома, не магчымыя ні нацыянальная культура, ні народная свядомасць, ні дзяржаўны суверэнітэт. Тыя распрацоўкі паступова ператвараліся ў вядучую тэму праблематыкі беларускага культурнага адраджэння.

Таму за ліквідацыяй Цэнтра крыецца дрэнна прыхаваная спроба знішчэння нацыянальнай культуры. І невыпадкова шэраг прадстаўнікоў беларускай грамадскасці (і не толькі навукоўцы) выказваюць сваю рашучую нязгоду з такімі дзеяннямі ўлад.

**Вераніка ПУШЧЫК.**

ЧУЛІ?

## 1 Мая пачынае дзейнічаць новы парадак перамяшчэння праз польскую мяжу

*З 1 мая 2004 года ўступае ў дзеянне распараджэнне міністра ўнутраных спраў Польшчы "Па пытанні вызначэння колькасці фінансавых сродкаў, што павінен мець замежны грамадзянін, які ўязджае на тэрыторыю Рэспублікі Польшча. І дакументаў, што могуць пацвердзіць наяўнасць гэтых сродкаў, а таксама мэту перамяшчэння праз мяжу".*

Як паведаміў на брыфінгу прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных, у адпаведнасці з гэтым распараджэннем, замежны грамадзянін, які ўязджае на польскую тэрыторыю, павінен прад'явіць пагранічным войскам страхавы поліс, які пакрывае, у выпадку неабходнасці, кошт лячэння ў Польшчы, альбо арыгінал запрашэння. У выпадку адсутнасці названых дакументаў замежны грамадзянін павінен прад'явіць пры ўездзе ў Польшчу суму ў аб'ёме не менш за 300 злотых на кожны дзень знаходжання ў Польшчы альбо раўназначную суму ў замежнай валюце.

Пацвярджэннем наяўнасці фінансавых сродкаў можа быць адкрыты рахунак у польскім банку, а таксама наяўнасць сапраўднай плацёжнай банкаўскай карткі.

Як паведаміў прэс-сакратар, новы парадак перамяшчэння праз беларуска-польскую мяжу будзе распаўсюджвацца на ўсе катэгорыі грамадзян Беларусі, у тым ліку і тых, хто ўжо мае польскія візы, за выключэннем беларускіх грамадзян, якія перамяшчаюцца транзітам праз тэрыторыю Польшчы.

Нагадаем, што з 1 мая зніжаецца і кошт уязной польскай візы. Так, консульскі збор за аднаразовую візу будзе складаць 5 еўра.

АФІЦЫЙНА

## Адтэрміноўка пагашэння запазычанасці за энергарэсурсы

Да 1 студзеня 2009 года сельскагаспадарчым арганізацыям Беларусі адтэрмінавана пагашэнне запазычанасці за спажытыя прыродны газ, электрычную і цеплавую энергію.

У адпаведнасці з пастановай Савета міністраў, гэтая мера датычыць запазычанасці, што назапашана па стане на 1 студзеня 2004 года. Адтэрміноўка прадастаўлена таксама арганізацыям "Белпалівагаза" па ўплаце запазычанасці за прыродны газ, адпушчаны сельгасарганізацыям. Акрамя таго, адтэрмінавана пагашэнне запазычанасці канцэрна "Белэнерга" за прыродны газ, выкарыстаны для вытворчасці электрычнай і цеплавой энергіі для сельгасарганізацый.

Згодна з дакументам, адтэрмінаваная запазычанасць за энергарэсурсы будзе пагашацца ў перыяд з 1 студзеня 2009 года па 31 снежня 2013 года штомесяц роўнымі долямі.

Пастанова ўрада таксама прадугледжвае спісанне адтэрмінаванай запазычанасці стратных сельгасарганізацый для юрыдычных асоб, якія набылі ў 2004—2005 гадах гэтыя гаспадаркі, пры ўмове іх эфектыўнай працы. Міністэрству фінансаў прадпісана прадугледзець у рэспубліканскім бюджэце 2005—2009 гадоў сродкі для пагашэння гэтых даўгоў.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

